КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Нарадзіла немаўля і змахлярыла пасля

У Віцебску да двух гадоў «хатняй хіміі» асудзілі маладую маці, якая была ў дэкрэтным адпачынку і ўмудрылася двойчы атрымаць грашовую дапамогу на дзіця, неабгрунтавана брала бясплатнае харчаванне для немаўляці.

Звыклая на першы погляд справа –
Нарадзіла дзеўка немаўля.
Скажаце, што гэта нецікава?
Самае цікавае – пасля.
Хлопчык рос здаровым, дзякуй богу,
Добрыя ў дзіцяці зрок і слых.
Парадокс у тым, што дапамогу
Атрымала маці на дваіх.
Як жанчыне ўдаўся выбрык гэткі,
Нагружаць не буду вам мазгі.
А скажу адно: для прайдзісветкі
Быў фінал бязрадасны, благі.
Кажучы прасцей, прышылі справу
Следакі махлярцы кагадзе.
За падман дзяржавы, за халяву
Вынеслі ёй вырак у судзе.
Шлях ёй не за краты, а дадому,
Грошы ўсе аддасць яна…
Хаця
Лепш прысуд гучаў бы па-другому:
Нарадзіць яшчэ адно дзіця!

## Без білетаў, без пуцёўкі перавозіліся цёлкі

Ноччу інспектары ДАІ спынілі мікрааўтобус, унутры якога былі… дзве маладыя каровы. Высветлілася, што трое дзецюкоў укралі іх на ферме вёскі Іскань Быхаўскага раёна.

Салёнае сказаўшы слоўца,
Маёр паспеў махнуць жазлом:
Мікрааўтобус гнаў кіроўца,
Як кажуць, галавы на злом.
Хаця ўначы шаша пустая
І цяжка з'ехаць у кювет,
Аднак таго, хто так лятае,
Аштрафаваць, канешне, след.
Маёру палкай паласатай
Махнуць прыйшлося тры разы
Дый замахнуцца, як гранатай,
Каб завішчалі тармазы.
Кіроўца выскачыў з кабіны,
І грозна вымавіў маёр:
– Ты заплаціць мне штраф павінны,
Бо «бус» ляцеў, як метэор.
Яму кіроўца не пярэчыў…
Спагнаўшы штраф, маёр на «бус»
Зірнуў уважліва.
– Дарэчы,
Які ў тваёй машыне груз?
– Начальнік, гэта ўжо прыдзіркі…
– Іначай забяру правы!
– Там, у салоне, пасажыркі:
Мой «лімузін» – не грузавы…
– Хачу пабачыць я, каго ты
У гэткі позні час вязеш.
Паказваць не было ахвоты
У перавозчыка, але ж
Усё адно даб'ецца мэты,
І падпарадкавацца трэ,
Іначай «мент паганы» гэты
Правы і праўда забярэ.
Адкрыў кіроўца ўсё-ткі дзверы,
Хоць гэта дужа неўспадоб.
Маёр не даў спачатку веры –
Аж вочы вылезлі на лоб:
Дзве перапужаныя цёлкі
Акупавалі ўвесь салон.
Службовец кінуў позірк колкі,
Пачырванеў ад гневу ён
І ўжо гатовы ўзяць за шкіркі.
– Дык што ты мне, паганец, плёў?
Ці заплацілі пасажыркі
Табе хаця б па пяць рублёў?
Мне вешаў локшыны на вушы
І думаў ты, што пранясе?
– Ды я ж нічога не парушыў
І ўмовы выканаў усе:
Прывязаныя, вунь, кароўкі.
Хоць не зусім і рамяні,
Але надзейныя вяроўкі –
Сумнення ў тым няма ані.
Ухмылка хітрая ў маёра:
– Ты думаеш, што я – асёл?
І стаў выпісваць на шафёра
Другі, суровы пратакол.
* * *
Бяды няма, што ў «бусе» – цёлкі,
Ды нездарма паднялі жазло:
Таварна-транспартнай пуцёўкі
На «пасажырак» не было…

## Калі наступіла зіма…

Зіма наступіла. Малюнак такі:
Усю малеча катаецца з горкі,
І весела дзецям. А нашы жанкі
(Хаця і не ўсе) пазалазілі ў норкі…

## Перамыла…

– Скажы, ну як прыйсці
магла ты
Такою п'янаю дахаты?
– Ды не была я п'янай, мілы!
Усю пасуду перамыла,
Што накапілася ў балеі…
– Ага, алеем…

ВІНШУЕМ!

# Станіслаў ШУШКЕВІЧ: «Гальштукамі, што мне падарылі, жонка на лецішчы памідоры падвязвае...»

*15 снежня першаму кіраўніку незалежнай Беларусі споўніцца 85 гадоў.*

…Станіслаў Станіслававіч запрашае ў свой рабочы кабінет і сумна ўздыхае: *«Гэтыя юбілеі – што прыродныя катаклізмы. Стамляюць, хочацца збегчы ці куды-небудзь схавацца».*

**– А ў дзяцінстве вы ж, мабыць, любілі падарункі на дзень нараджэння?**

– Калі зусім малы быў, то гэтыя дні нават і не заўважаў. Але памятаю, што неяк у снежні мы сядзелі на печы, і для нас было вялікае свята, калі бабка купіла нам з сястрой па булачцы. Але не на мой дзень нараджэння, а 25 снежня, на каталіцкае Нараджэнне Хрыстова, бо бабуля была каталічкай.

Ужо пазней, калі вучыўся ў школе, мяне, натуральна, віншавалі 15 снежня, але ўжо дакладна і не памятаю, як праходзілі тыя дні.

**– Вы – фотааматар. Напэўна, фотаапарат быў самым чаканым падарункам?**

– Фотаапарат «Пентакс» мне падарылі японцы ўжо пазней, калі я быў дарослы. Цудоўная была тэхніка, праўда, у мяне яе скралі ў Злучаных Штатах Амерыкі.

Мой аднакласнік Абрам Затурэнскі, які з'ехаў жыць у Дэнвер, запрасіў на 50-годдзе свайго вяселля. На свяце хтосьці майму «Пентаксу» і «прырабіў ногі». Я пасля сваім сябру сказаў: «Абрам, на свяце ўсе былі яўрэі акрамя тваёй жонкі, маёй жонкі і мяне. Паколькі мы з жонкай і твая жонка тэхніку не кралі, то атрымліваецца, што скраў хтосьці з яўрэяў. У мяне ёсць падставы стаць антысемітам».

Добра мы тады пасмяяліся, хаця фотаапарат так і не знайшоўся.

А ў савецкі час у мяне таксама была дасканалая фотатэхніка, хаця пачынаў з апарата «Камсамолец». Сам назбіраў на яго грошы і купіў у 1946 годзе. Шмат здымкаў захавалася і па сённяшні дзень.

**– Белавежскія пагадненні ў Віскулях былі падпісаны 8 снежня, амаль за тыдзень да вашага дня нараджэння. Добры падарунак вы тады зрабілі…**

– Такога падарунка ў Беларусі больш ніколі не было і не будзе! І, ведаеце, мне пастаянна ўспамінаюцца падзеі тых часоў, нейкія дэталі…

Сёння розныя «эксперты» прыплялі столькі ўсялякіх выдумак, прычым многія з іх непрыгожыя да непрыстойнасці. Акрамя таго, як я заўважыў, некаторыя змянілі свой падыход да падзеі. Той жа былы прэм'ер-міністр Беларусі Вячаслаў Кебіч у сваёй кнізе напісаў, што гэта я яго быццам бы вымусіў падпісаць Белавежскія пагадненні. Лухта! Кебіч шчаслівы быў, што паставіў свой подпіс пад дакументам аб тым, што Беларусь стала незалежнай дзяржавай. І Расія тады прызнала гэтую незалежнасць. Хіба гэта быў не падарунак для беларусаў?!

**– А як вы адзначаеце святочныя даты? Дома альбо ў рэстаране?**

– Як правіла, дома, і звычайна спецыяльна нікога да сябе не запрашаю. Усе мае сябры ведаюць, што можна прыйсці да мяне, павіншаваць. І без выпіўкі ды без закускі ніхто не застанецца.

А вось 75-годдзе было даволі… цікавым. Справа ў тым, што я ўцёк на той юбілей з Мінска: у гэты час мяне запрасілі чытаць лекцыі ва ўніверсітэце ў Атланце. Шчыра кажучы, я і сам напрасіўся ў гэтую паездку, бо не ведаў, як адзначаць дату.

І вось мы ў невялікай кампаніі 16 снежня знаходзімся ў рэстаране, і тут раздаецца тэлефонны званок. Бачу: на тэлефане «Ягор Гайдар». Узрадаваўся, думаю: гэта ж трэба, ён памятае мой дзень нараджэння! Я радасна хапаю трубку, а аказваецца, што гэта тэлефануе памочнік Ягора Цімуравіча: «Станіслаў Станіслававіч, сёння Гайдар памёр». У мяне тады знік усялякі настрой. Але прыехаў у Мінск, і праз месяц сябры ўсё-такі зладзілі для мяне ўрачыстыя віншаванні.

І на 80-годдзе гісторыя атрымалася не вельмі вясёлая. Заказалі рэстаран, запрасілі гасцей, і акурат у гэты дзень я патрапіў з сэрцам у рэанімацыю. Натуральна, усё адмянілася.

Таму зараз я вырашыў не спакушаць лёс і 85-годдзе наогул не буду адзначаць. У гэты дзень вырашыў збегчы з Мінска і нават забяспечыў ужо сабе месца, дзе мяне ніхто не знойдзе.

**– Як зараз ваша здароўе?**

– Скажам так: не тое, што раней. Пасля таго як паставілі кардыястымулятар, кожны дзень патрэбна прымаць па 16 таблетак, каб больш-менш знаходзіцца ў форме. Кавай стараюся не злоўжываць, каб ціск не ўзнімаўся.

Хаця я ўжо і так пераўжыў сярэднестатыстычнага беларуса. І бацьку па гадах перажыў, і маці. А вось бабка памерла ў 96 гадоў. Вельмі моцная была.

**– Ды і вам, я бачу, здароўе яшчэ дазваляе штогод лятаць на Новы год у Мексіку…**

– Апошнія тры гады мы з жонкай і на самай справе адзначаем Новы год у Мексіцы, куды лятаем па запрашэнні сябroў, якія апладзіруюць і пералёт, і пражыванне. Так мне дзякуюць за тое, што я ў свой час напісаў ліст Фідэлю Кастра, каб той вызваліў лацінаамерыканскіх палітвязняў. Дарэчы, я да гэтага часу не ведаю, хто дакладна мяне запрашае, але здагадваюся.

Шчыра вам скажу: у Мексіцы жывуць вельмі прыемныя людзі з вельмі цікавымі традыцыямі. Неяк прапанавалі мне цыгару, я адказаў, што не палю. І якое ж было маё здзіўленне, калі даведаўся, што цыгары яны там не смаляць, як у нас цыгарэты. Яны проста трымаюць у роце дым, каб адчуць пах тытуню.

**– Я так разумею, Мексіка вам падабаецца.**

– Краіна-казка! Усё, што я раней чытаў пра Мексіку, было не тое, што ўбачыў на свае вочы. Замест наркабаронаў і бандытаў я сустракаў лагодных і шчырых людзей, з якімі прыемна было бавіць час. Таму і ў гэтым годзе збіраемся па тым жа маршруце, чамадан з гаража я ўжо прыцягнуў. Хаця рэчаў шмат не бяром.

**– А як пераносіце такую доўгую дарогу?**

– Самыя працяглыя пералёты былі ў мяне ў 1990-я гады, калі я лятаў у Карэю. Тады быў забаронены пралёт над Кітаем, а таму даводзілася ляцець з Германіі да Сеула каля 14 гадзін. Але я ў самалёце не стамляюся. Пачытаў, паеў у добрым паветраным рэстаране, паспаў…

**– Вам да гэтага часу на дзень нараджэння дораць падарункі?**

– Савецкая традыцыя была вельмі прымітыўная. Мае сябры звычайна прыходзілі з бутэлькай, і яна ндоўга жыла ў нашым доме.

А вось ад дарагіх падарункаў я заўсёды адмаўляўся. Калі летам вы прыедзеце да мяне на лецішча, то ўбачыце, што жонка падвязвае памідоры гальштукамі, якія мне некалі падарылі. І гісторыя была такая. Калі быў першым намеснікам старшыні Вярхоўнага Савета, ізраільская дэлегацыя вырашыла зрабіць мне падарунак, на што я сказаў: «Ведаеце, я не бяру падарункі, даражэйшыя за гальштук».

Пасля гэтага мне падарылі ўпакоўку, у якой было больш за сорак гальштукаў самых розных колераў. І, як бачым, жонка знайшла ім зараз прымяненне.

А самы незвычайны падарунак быў, відаць, ад прэзідэнта ЗША Біла Клінтана. Ён даведаўся, што я калекцыяную гульнявыя карты (хаця сам ніколі не гуляў), і падарыў мне скрыначку з трыма калодамі. Дарэчы, сёння ў маёй калекцыі ўжо больш за 600 калод розных карт.

**– Станіслаў Станіслававіч, 85 гадоў – гэта сур'ёзная дата. Што дапамагае падтрымліваць сілы і бадзёрасць духу?**

– Калі я быў малады, то ставіў задачу дажыць да 2000 года. Хацелася пабачыць, што зменіцца ў свеце ў новым тысячагоддзі. Як бачым, дажыў і перажыў. І зараз разам з жонкай збіраю чамадан у Мексіку…

**Алесь СІВЫ.**



АРТ-ЖЫЦЦЁ

# Спектакль «Паўлінка» атрымаў статус гісторыка-культурнай каштоўнасці

Беларуская рэспубліканская навукова-метадычная рада па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь аднагалосна падтрымала ініцыятыву Купалаўскага тэатра аб неабходнасці надання спектаклю «Паўлінка» рэжысёра Льва Літвінава як тэатральнаму феномену статусу гісторыка-культурнай каштоўнасці.

Два дні таму перад саветам у Міністэрстве культуры гэтую прапанову абгрунтоўвалі народныя артысты Беларусі Марыя Захарэвіч і Арнольд Памазан, які больш за 30 гадоў выходзіў на сцэну ў ролі пана Адольфа Быкоўскага, а таксама генеральны дырэктар Купалаўскага тэатра Павел Латушка, загадчыца літаратурна-драматургічнай часткі Вольга Бабкова і адна з вядучых артыстак тэатра Марта Голубева – наша сённяшняя Паўлінка.

Янка Купала напісаў «Паўлінку» ў 1912 годзе. Упершыню п'еса была пастаўлена Фларыянам Ждановічам у 1913-м.



Купалаўскі тэатр ажыццявіў пастаноўку падчас вайны, у 1944 годзе, калі тэатр знаходзіўся ў эвакуацыі ў Томску. З таго часу «Паўлінка» нязменна знаходзіцца ў рэпертуары Купалаўскага тэатра. Змяніліся чатыры пакаленні артыстаў, але публіка па-ранейшаму захап-ляецца гісторыяй пра тое, як дзяўчына, не збаяўшыся нязгоды бацькоў, выбрала сабе жаніха. Сакрэт поспеху спектакля ў яго прастаце, шчырасці і незласлівасці, лічаць крытыкі. Але ці можна толькі тэтым патлумачыць таінства стварэння сапраўднага шэдэўра?

Сёння «Паўлінка» з'яўляецца нацыянальным брэндам і сімвалам галоўнай драматычнай сцэны краіны.

**Вікторыя ДРОЗД.**

**На фота: Арнольд Памазан ў ролі пана Быкоўскага. 1980 год.**

ЧУЛІ?

# «Юраўскі карагод» – у Спісе нематэрыяльнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА

Рашэнне аб уключэнні старажытнага беларускага абраду вёскі Пагост Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці ў спіс ЮНЕСКА было прынята днямі ў Калумбіі на 14-й сесіі Міжурадавага камітэта па ахове нематэрыяльнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА .

«Юраўскі карагод» – трэці беларускі элемент у Спісе нематэрыяльнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА. У 2009 годзе ў Спіс быў уключаны святочны калядны абрад «Калядныя цары» вёскі Семежава Капыльскага раёна Мінскай вобласці, а у 2017-м – Будслаўскі фэст – святкаванне ў гонар іконы Маці Божай Будслаўскай у вёсцы Будслаў Мядзельскага раёна Мінскай вобласці.

**Ганна ГАНЧАРЫК.**



КРЫМІНАЛ

# Замест грошай дастаў нож

У Гомель Таджык Анаеў прыехаў з Туркменістана. Вучыўся на платнай аснове ва ўніверсітэце імя Францыска Скарыны на другім курсе, меўся стаць прафесійным эканамістам. Пэўна, і стаў бы ім, калі б не не азартныя гульні. Яны зацягнулі хлопца так, што ён і заняткі ва ўніверсітэце прапускаў, і перыядычна залятаў у даўгі.

Завінаваціўся Таджык і за кватэру, якую наймаў у Гомелі з двума аднакурснікамі. 23-гадовая жыхарка абласнога цэнтра Юля, якая здавала ім кватэру, расказала:

– Разлічваўся заўсёды Анаеў, бо ён лепей за іншых размаўляў па-руску.

Апошні раз Юля сустрэлася з Анаевым 20 сакавіка падвечар на аўтамабільнай стаянцы, што блізу нова-га ўнівермага. Дзяўчына прыехала на сваёй аўтамашыне, туркменскі студэнт сеў побач з ёй на пярэдняе сядзенне. Нейкай неадэкватнасці ў паводзінах кватаранта Юля не заўважыла. Таворка зайшла пра пратэрміноўку ў аплаце жылля. І тут нечакана Анаеў нанёс дзяўчыне удар нажом у шыю. Ці хаваў ён той нож у рукаве, калі садзіўся ў машыну, альбо дастаў з кішэні, Юля не ведае. Яна выскачыла з аўто і кінулася ўбок ажыўленага перакрыжавання.

Анаеў дагнаў дзяўчыну і яшчэ некалькі разоў ударыў тым жа нажом.

– Дапамажыце! – што было моцы закрычала дзяўчына.

Прахожыя адгукнуліся на заклік аб дапамозе – выклікалі «хуткую» і міліцыю. Пакуль людзі аказвалі першую дапамогу акрываўленай дзяўчыне, Анаеў вярнуўся да яе аўтамашыны, схапіў сумку і знік, але быў хутка знойдзены міліцыяй.

Крымінальную справу аб замаху на забойства з асабліваю жорсткасцю з карыслівых памкненняў і крадзеж расследаваў гарадскі аддзел Следчага камітэта. Следчыя выявілі і падрабязнасці навучання Таджыка Анаева ва ўніверсітэце. Пры зборы матэрыялаў, якія характарызуюць абвінавачанага, высветлілася, што госць Беларусі неаднаразова прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці за парушэнне правілаў дарожнага руху. На адрас кіраўніцтва ўніверсітэта, дзе вучыўся Анаеў, аддзел СК накіраваў прадстаўленне дзеля папярэджання злачынстваў у асяродку іх замежных, так і беларускіх студэнтаў. На эканамічным факультэце была нават зладжана сустрэча з супрацоўнікамі камітэта.

11 снежня Гомельскі абласны суд, які разглядаў гэту крымінальную справу ў першай інстанцыі, асудзіў Таджыка Анаева на 13 гадоў і 1 месяц зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Ён мусіць сплаціць пацярпелай дзяўчыне 60.630 рублёў кампенсацыі маральнай і матэрыяльнай шкоды, а таксама судовыя выдаткі.

У зале падчас абвяшчэння выраку прысутнічалі не толькі студэнты – землякі Анаева, але і маці, якая прыехала з Туркменістана. Яна плакала навзрыд. Пасля агалошвання прысуду ёй зрабілася кепска, і сын стаў біць знутры далонню ў браніраванае шкло клеткі для падсудных з крыкам: «Хуткую! Хуткую!» Ахоўнік з міліцыі патрабаваў парадку. «Ну страляй у мяне!» – ляманатаваў ндаўні студэнт. Супрацоўнікі суда выклікалі «хуткую дапамогу».

Абвешчаны вырак яшчэ не набыў юрыдычную моц. У 10-дзённы тэрмін ён можа быць асрпэчаны ў Вярхоўным судзе.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ.**
**Гомель.**

# ПОЛЬСКАЯ МЕНШАСЦЬ У БЕЛАРУСІ:
# ГІСТОРЫЯ, ЛЁС, ДЗЕНЬ СЁННЯШНІ, ПРАБЛЕМЫ...

*На тэрыторыі нашай краіны пражываюць людзі самых розных нацыянальнасцяў. Сярод іх нямала палякаў.*
*Як пачуваюць яны ў агульнай сям'і?*
*Што спрыяе захаванню іх ідэнтычнасці?*
*Якія праблемы паўстаюць перад супольнасцю?*
*Якія інтэграцыйныя працэсы адбываюцца ў стасунках паміж Беларуссю і Польшчай?*
*Пра гэта і многае іншае – у матэрыялах спецпраекта.*

РАДАВОД

## На мяжы трох краін

*Мястэчка Сапоцкін Гродзенскага раёна знаходзіцца на памежжы Беларусі, Польшчы і Літвы. Яно вядомае тым, што тут з даўніх часоў кампактна пражывае польскае насельніцтва.*
*На пачатку 1990-х гадоў Сапоцкін стаў славутым яшчэ і таму, што ў ім зніклі ўсе савецкія назвы вуліц.*
*Аб тым, як цяпер жыве Сапоцкін, нашаму карэспандэнту распавялі жыхары мястэчка.*

Зараз Сапоцкін знешне амаль нічым не адрозніваецца ад іншых мястэчак і вёсак Гродзенскай вобласці. Чыстыя вуліцы з падрамантаванымі ходнікамі, прыбраныя двары, дыхтоўныя хаты. Ёсць школа, касцёл. У цэнтры аж чатыры харчовыя крамы. І, як заўважае мой суразмоўца – былы настаўнік і краязнаўца **Тадэвуш Лапуць,** у крамах усяго хапае, былі б грошы.

Ён вельмі рамантычна апавядае гісторыю мястэчка:

– *У Сапоцкіне і ваколіцах да 1875 года жылі шматлікія грэка-католікі, альбо, як іх называлі, уніяты. А на іншых беларускіх землях унію ліквідавалі яшчэ ў 1839 годзе. Уніяты не хацелі прымаць праваслаўе, і пасля таго, як у 1905-м цар Мікалай II дазволіў расійскім падданым змяняць канфесію, амаль усе жыхары Сапоцкіншчыны перайшлі ў каталіцтва.*

Не менш цікава гучыць гісторыя пра тое, як паміж 1795-м і 1807 гадамі мястэчка Сапоцкін уваходзіла ў склад Каралеўства Прусіі, у той час калі ўсе іншыя землі сучаснай Беларусі былі ў складзе Расійскай імперыі.

Згадвае краязнаўца і пра тое, што з 1944-га да 1959 года існаваў асобны Сапоцкінскі раён Гродзенскай вобласці. Ён быў суцэльнай пагранічнай зонай.




### «...Там адны палякі»

Згадваючы савецкія часы, спадар Тадэвуш кажа, што людзі ў Сапоцкіне імкнуліся аб'яднацца вакол касцёла, бо з-за бальшавіцкай палітыкі ніякага грамадскага жыцця, польскіх арганізацый быць не магло. Сталічнае і абласное начальства гэты рэгіён не любіла, бо, маўляў, «там адны палякі».

– *Хоць у нас усё было, як і паўсюль*, – канстатуе мой суразмоўца. – *Акцябраты, піянеры, камсамольцы і камуністы... Праўда, людзі ў асноўным гаварылі па-польску*.

Адной з асаблівасцяў рэгіёна, дадае краязнаўца, было тое, што ўсё начальства ў мястэчку ледзь не да 1980-х гадоў прысылаліся аднекуль. Нават ніводнага міліцыянта не было з мясцовых людзей.

З распадам Савецкага Саюза сітуацыя змянілася ў лепшы бок. Пачалося нацыянальнае адраджэнне не толькі беларускага этнасу, але і ўсіх астатніх супольнасцяў. Уздыхнулі і тутэйшыя палякі. Яны сталі ўмацоўваць сваю ідэнтычнасць, выкарыстоўваючы самыя розныя формы грамадзянскай актыўнасці.

На жаль, пазней у мястэчку, як і паўсюль у Беларусі, пахіснулася эканамічнае становішча. Цэнтр калгаса перанеслі ў іншую вёску, зачынілі хлебапякарню, каўбасны цэх, малочны сепаратар, цагельню, прафтэхвучылішча. Адразу зменшылася колькасць працоўных месцаў, упалі заробкі, і многія цяпер вымушаны ездзіць на працу ў Гродна.

Зараз, паводле слоў спадара Тадэвуша, у Сапоцкіне дзейнічаюць дзве суполкі палякаў. Адна падтрымлівае афіцыйны саюз, а другая – тыя структуры, якія ўзначальвае **Анжаліка Борыс** і які фактычна не прызнаюць беларускія ўлады.

Я заўважыў, што цяпер ў мястэчку далёка не ўсе размаўляюць на польскай мове. У крамах, на пошце, на вуліцы гучыць і руская. Так-так, руская, а не беларуская.

– *Калі Беларусь атрымала незалежнасць, мы ў школе два гады запар выпускалі класы, у якіх на працягу навучання ўсе прадметы выкладаліся на польскай. Польская мова была і ў дзіцячым садку. Але вось змянілася ўлада – і пачалася русіфікацыя. Садкі, школа, справаводства, рэклама – усё па-руску.*

Цяпер, канстатуе былы настаўнік, дзеці навучаюцца польскай мове толькі на факультатывах у школе альбо пры касцёле.

### Чаму ў Сапоцкіне няма вуліцы Касцюшкі?

На пачатку 1990-х, калі Беларусь стала незалежнай, павевы свабоды былі адчувальныя і ў мястэчку на самай мяжы з Польшчай і Літвою. Спадар Тадэвуш згадвае, што тады ў Сапоцкіне жыло каля 3 тысяч чалавек, у школе налічвалася каля тысячы вучняў. Цяпер жыхароў усяго каля тысячы, і ў школе, улічваючы і дзяцей з навакольных вёсак, усяго 150 навучэнцаў.

Амаль усе дэпутаты мясцовага Савета былі польскай нацыянальнасці. Ксёндз прапанаваў людзям сабраць подпісы за тое, каб перайменаваць вуліцу Леніна ў вуліцу імя Яна Паўла II.

– *Гэту ідэю актыўна падтрымалі жыхары мястэчка*, – згадвае спадар Лупуць. – *Калі я хадзіў па хатах збіраць подпісы, то старэйшыя людзі плакалі і не маглі паверыць, што здолеюць пазбавіцца бальшавіцкіх назваў.*

Дэмакратычныя працэсы па ўсёй краіне набіралі моц, многія камуністы палілі свае білеты, а жыхары ўсіх вуліц, назвы якіх былі звязаны з бальшавіцкімі лідарамі, пачалі збіраць подпісы, каб іх пераназваць.

– *Аднойчы адбыўся казус*, – удакладняе краязнаўца. – *Калі на пасяджэнні сесіі сельскага Савета аб'явілі, што вуліцу Суворава прапануюць назваць імем Касцюшкі, то знайшліся тыя, хто запярэчыў. Аказалася, што на гэтай вуліцы жыве сям'я Касцюшкаў і гаспадар часта бывае нападпітку. Людзям гэта не спадабалася, і было прынята рашэнне надаць вуліцы імя Сянкевіча.*

Мясцовы Савет перайменаваў у мястэчку ўсе вуліцы, якія насілі прозвішчы бальшавікоў, а цэнтральная вуліца Леніна стала вуліцай Папы Рымскага Яна Паўла II. І гэта, дарэчы, было зроблена яшчэ пры яго жыцці.

Не здолелі толькі зняць помнік Леніну. Паводле слоў майго суразмоўцы, людзі спрабавалі гэта зрабіць, але зверху не дазволілі.

### «У многіх тут добрыя бацькоўскія дамы»

У местачковай харчовай краме разгаварыўся з маладымі прадаўцамі. Дзяўчаты, калі пачулі, што я карэспандэнт «Народнай Волі», пачалі адразу распавядаць пра жыццё сваё і ўсіх тутэйшых жыхароў. Іх праблемы мала чым адрозніваюцца ад тых, з якімі цяпер сутыкаюцца ў многіх-многіх беларускіх вёсках. Так, **Ядвіга Лукуць** перакканана, што калі б маладыя людзі маглі добра зарабляць у Сапоцкіне, то большасць з іх нікуды не з'язджала б.

– *У многіх тут добрыя бацькоўскія дамы,* – канстатуе жанчына. – *І шмат хто з моладзі хацеў бы працаваць на месцы, а даводзіцца выязджаць на заробкі.*

Што тычыцца людзей пенсіённага веку, то яны, маючы падтрымку ад дзяржавы, яшчэ вядуць сваю прыватную гаспадарку і такім чынам больш-менш зводзяць канцы з канцамі.

Пенсіянер **Генрых Сакалоўскі** распавядае, што напачатку людзі мелі нейкую надзею, што з развіццём Аўгустоўскага канала, які ўсяго ў некалькіх кіламетрах ад мястэчка, з'явіцца больш працоўных месцаў. Але, на жаль, спадзяванні пакуль не спраўдзіліся.

– *Пра які турызм можна казаць, калі ні ў Сапоцкіне, ні на самім Аўгустоўскім канале няма ніводнай сталоўкі, рэстарана, гатэля? Дзе людзям паесці і пераначаваць? А без гэтага турыстаў не завабіш...* – кажа спадар Сакалоўскі.

Нядаўна ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі з'явілася паведамленне, што ў Сапоцкіне плануюць будаваць гарналыжны курорт і пляцоўкі для гольфа. Але гэта толькі планы, да іх рэалізацыі далёка.

А пакуль у мястэчку Сапоцкін ціха, нейкіх кардынальных змен не адбываецца.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**


У мясцовай краме.


...А вось бальшавіцкага ідала сапоцкінцам не ўдалося скінуць з п'едэстала.

АД РЭДАКЦЫІ

## Жыць па-суседску

Чужаку – шапку ў руку, а бяседа – для суседа. Так здаўна гаварылі ў Беларусі, вызначаючы прыярытэты ў адносінах. Прычым слова *бяседа* тут трэба разумець у спаконвечным і адзіна правільным сэнсе – сяброўскае шчодрае застолле. Згадайма радкі з геніяльнай паэмы Янкі Купалы «Курган»: «*Раз бяседа вялікая ў князя была – / На пасад дачку княжну садзілі...*» Што застолле княжацкае, што сялянскае, а самым ганаровым госцем на ім быў, як правіла, сусед. Кепскім лічыўся той гаспадар, які прымаў і частаваў суседа ў запечку.

Наша суседка з таго боку, дзе заходзіць сонца, – Польшча. Ужо тысячу гадоў мы жывём з палякамі па-суседску. За гэты час бывала рознае. Два стагоддзі мы жылі ў адной дзяржаве. Наш агульны кароль і вялікі князь Стэфан Баторый жыў у сваёй рэзідэнцыі ў Гродне – горад да гэтай пары называюць каралеўскім. Беларусы і палякі ў 1410 годзе стаялі поплеч на Грунвальдскім полі і супольнымі высілкамі спынілі варожую навалу з захаду. Праз паўтара стагоддзя нашы продкі, зноў жа аб'яднаўшы сілы, змаглі адбіцца ад варожай навалы з усходу. Разам мы зведалі не толькі салодкі смак перамогі, але і горыч паражэнняў. Імперскія падзелы ірвалі на шматкі і беларускія, і польскія землі.

Поплеч стаялі мы і ў вызваленчых паўстаннях 1830 і 1863 гадоў. Поплеч беларускія і польскія паўстанцы ішлі на эшафоты і шыбеніцы. Поплеч яны апынуліся і ў вечнасці – як Кастусь Каліноўскі і Зыгмунт Серакоўскі на віленскіх Росах...

«А як жа Картуз-Бяроза і Лукішкі – польскія турмы, праз якія прайшлі многія беларускія патрыёты?» – на любой бяседзе раптам можа прагучаць падазрона цвярозы голас, правакуючы сварку. Часам і незразумела, хто сказаў і адкуль – ці то з адчыненага на вуліцу акна, ці то з цёмнай каморы, прымкнутай на засаўку. Скажа той нехта і падглядвае ў шчыліну, як павядуць сябе застольнікі. Ці не скасавурацца адзін на аднаго, ці не схопяцца за́грудкі...

Што ж, была ў нашай супольнай гісторыі і Картуз-Бяроза з Лукішкамі, няма патрэбы гэтага хаваць. Бывае, і суседзі паспрачаюцца за якую-небудзь яблыню, што расце па адзін бок плоту, а яблыкі ў траву страсае – па другі. Але спрэчкі тыя заўсёды заканчваюцца лагодай.

Музейная лагода пануе сёння і ў былых турэмных мурах Бярозы-Картузскай – у колішніх камерах можна пазнаёміцца з мірнай і ваеннай мінуўшчынай Брэстчыны. Турма, ператвораная ў музей, – вось знак даравання і добрасуседства!

Думаючы пра агульналюдскае дараванне, вялікі сын беларускай зямлі і вялікі польскі паэт Адам Міцкевіч пісаў: «*Хай душа твая ляжа, быццам сцішаны луг, / І па ім, як рака, паплыве Божы дух*». Няма пэўнасці, якую раку меў на ўвазе славуты пясняр, але адпаведная рака ў нас у наяўнасці – акурат на беларуска-польскім памежжы. Завецца яна Буг (а па-беларуску магло б гучаць *Бог*), і з часоў, калі рэкі былі адзінымі дарогамі, спалучала нашы народы, падштурхоўвала да добрасуседскай узаемнасці. Так што і Бог у нас з палякамі адзін – як у небе, так і на зямлі.

Усё пералічанае – надзейная зарука таго, што і наступную тысячу гадоў мы пражывём па-суседску лагодна, добразычліва і ўзаемазацікаўлена. Паглядаючы як мага часцей на наканаваную нам звыш drogu do wzajemności – Буг і прыгадваючы – прынагодна – яшчэ адну даўнюю беларускую прыказку: сусед суседачку клікаў на бяседачку...

ЦИФРА ДНЯ

## 2,5 миллиарда долларов

Польша – важный экономический партнер Беларуси. По итогам 2018 года Республика Польша стала шестым внешнеэкономическим партнером Беларуси и четвертым после России, Великобритании и Кипра инвестором в экономику нашей страны. Объем польских инвестиций превысил 445 миллионов долларов.

Товарооборот между странами в прошлом году составил 2,5 миллиарда долларов. А по итогам нынешнего, 2019-го, года, по мнению заместителя директора Департамента торговли и международного сотрудничества Министерства развития Польши **Артура Домбковского**, может выйти на рекордные цифры.

ШТРИХ

## Как Беларусь торгует с Польшей

В последние годы существенно увеличился экспорт белорусских товаров в страну-соседку. И если, например, в 2015 году Беларусь поставила в Польшу товаров на 767 миллионов долларов, то в прошлом году – уже на 1 миллиард 344 миллиона.

**Динамика белорусско-польской торговли товарами**

| |
|---|
| **Импорт из Польшу, в млн долларов** |
| 2015 год – 1086 |
| 2016 – 1254 |
| 2017 – 1339 |
| 2018 – 1206 |
| **Экспорт в Польшу:** |
| 2015 – 767 |
| 2016 – 815 |
| 2017 – 1054 |
| 2018 – 1344 |

**Иван ШИРОКИЙ.**

К СЛОВУ

## Число участников выросло в 2 раза

На днях в Минске состоялся одиннадцатый по счету Форум польских инвесторов. И как отметил посол Польши в Беларуси **Артур Михальский**, число участников форума в этом году выросло в два раза – до более чем 200 человек. «*Это показатель того, как растет интерес к сотрудничеству*, – отметил дипломат. – *Не все безоблачно, некоторые польские компании сталкиваются с проблемами*». Стороны работают над их решением.

В свою очередь сопредседатель белорусско-польской комиссии по экономическому сотрудничеству, министр антимонопольного регулирования и торговли Беларуси **Владимир Колтович** заявил: «*Мы очень рады, что польские компании во все времена, несмотря на всякие экономические, политические проблемы, всегда проявляли интерес к белорусскому рынку. Несмотря на то, что Польша и Беларусь являются членами различных интеграционных объединений, я уверен, что мы можем и должны использовать эту модель для получения большей выгоды от нашего соседства. Надеюсь, что мы сделаем процесс нашего экономического роста необратимым*».

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

# ПОЛЬСКАЯ МЕНШАСЦЬ У БЕЛАРУСІ: ГІСТОРЫЯ, ЛЁС, ДЗЕНЬ СЁННЯШНІ, ПРАБЛЕМЫ…

ПАМЯЦЬ

## Знічы на могілках

Наведайце любыя могілкі ў Заходняй Беларусі – і абавязкова пабачыце надпісы на надмагільных помніках па-польску. Нярэдка бывае, што могілкі дзеляцца на дзве часткі – «беларускую» і «польскую»

Як некалі жылося нашым суайчыннікам у польскай дзяржаве – можна даведацца і з гістарычных даследаванняў, і з мастацкай літаратуры, напрыклад, з хрэстаматыйнай аповесці Янкі Брыля «Сірочы хлеб». Між іншым, яе аўтар як жаўнер Войска Польскага бараніў Польшчу ад гітлераўскай навалы ў безнадзейным 1939-м. Са школы помніцца, з якой удзячнасцю герой аповесці беларускі хлопчык Янусь Малец успамінаў сваю польскую настаўніцу.

Беларусы – народ удзячны. І калі нават мелі месца нейкія гістарычныя непаразуменні, то памяць пра іх развейваецца на нашым даляглядзе як дым. Таму мемарыяльныя мясціны, звязаныя з далёкім часам, набываюць ужо гістарычнае значэнне.

Адна з такіх мясцінаў – вёска Дунілавічы на Пастаўшчыне, дзе пахаваны польскія салдаты і афіцэры, удзельнікі савецка-польскай вайны 1920 года. Дарэчы, гэтыя могілкі



ў 1936 годзе наведваў тагачасны прэзідэнт Польшчы **Ігнацій Масціцкі.**

На жаль, у канцы мінулага стагоддзя дунілавіцкія могілкі неаднойчы раскопваліся «чорнымі капальнікамі». Тых капальнікаў-глумліўцаў не адразу ўдалося спыніць – ні ахоўныя шыльды, ні вартаўнікі не дапамагалі. Дарогу ў Дунілавічы аматары лёгкай спажывы забыліся толькі тады, калі мясцовыя ўлады ўзяліся за добраўпарадкаванне тэрыторыі. Іх падтрымала польская амбасада ў Беларусі, падключыліся і адпаведныя ўстановы ў Польшчы. У выніку сёння на могілкі прыемна зайсці – помнікі адрэстаўраваны, дарожкі пасыпаны драбленым каменнем.

З часам дунілавіцкія могілкі сталі месцам паломніцтва палякаў, якія прыязджаюць у Беларусь. Скажам, летась на Дзяды (агульнае для беларусаў і палякаў свята) там пабываў польскі міністр замежных спраў Яцэк Чапутовіч, які знаходзіўся ў Беларусі з афіцыйным візітам. Разам з ім могілкі наведалі амбасадар Польшчы ў Беларусі **Артур Міхальскі** і старшыня Пастаўскага райвыканкама Сяргей Чэпік. Усе яны прысутнічалі на памінальнай службе, якую адслужыў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч.

Пасля ўскладання кветак і рытуальнага запальвання знічоў памяці польскі міністр Яцэк Чапутовіч падзякаваў прадстаўнікам беларускай улады: «*Хутка пройдзе 100 гадоў з дня заканчэння польска-савецкай вайны. Пры падтрымцы Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны Польшчы нам удалося адрэстаўраваць могілкі польскіх салдат не толькі ў Дунілавічах, але і ў Докшыцах, а таксама ў вёсках Задарожжы і Язне. Дзякуй уладам Беларусі за спрыянне... Памяць пра супольнае мінулае – добры падмурак для будучыні*».

Яшчэ адзін прыклад пашанлівых адносін да супольнай гісторыі – нядаўняе перапахаванне паўстанцаў 1863 года ў Вільнюсе. Труны Кастуся Каліноўскага і Зыгмунта Сераkoўскага былі пакрыты гістарычнымі штандарамі з Пагоняй і Белым Арлом. Беларускія і польскія паўстанцы знайшлі свой апошні прытулак у адной на ўсіх капліцы на могілках Росы. У той капліцы ёсць і польскі вянок, і два беларускія – ад дзяржавы, якую прадстаўляў віцэ-прэм'ер, з чырвона-зялёнай стужкай і ад шматлікай прысутнай на цырымоніі беларускай грамады (са стужкай бел-чырвона-белай).

А знічы памяці гараць аднолькавым для ўсіх агнём…

**Максім КОМЛІЧ.**

АДКРЫТЫМ ТЭКСТАМ

## Мечыслаў ЛЫСЫ: «Беларускім палякам трэба аб'яднацца…»



*З 2005 года ў Беларусі існуе Саюз палякаў, які афіцыйна прызнаны беларускай уладай. Даволі шматлікі, мае дзясяткі рэгіянальных аддзяленняў. Ужо сем гадоў ім кіруе выкладчык адной з мінскіх ВНУ **Мечыслаў ЛЫСЫ**, які пагадзіўся адказаць на пытанні «Народнай Волі».*

**– Пане Мечыславе, дзейнасць ачоленага вамі Саюза палякаў нячаста асвятляецца ў СМІ. Чым вы займаецеся?**

– У нашым статуце запісана: захаванне польскай мовы, культуры, традыцый. Гэтым і займаемся. Штогод ладзім шмат мерапрыемстваў, якія сталі ўжо традыцыйнымі. Напрыклад, вясной праводзім кірмаш «Казюкі» ў Гродне, у Слоніме – фестываль «Паланэз», які некалькі гадоў таму стаў міжнародным. У жніўні збіраемся на Міжнародны фестываль «Аўгустоўскі канал у культуры трох народаў». Я назваў толькі маштабныя, знакавыя мерапрыемствы. Праводзім таксама шмат дзіцячых конкурсаў. Вось неўзабаве, 21 снежня, будзе конкурс чытальнікаў. Абавязкова адзначаем польскія святы – Дзень незалежнасці і Дзень Канстытуцыі.

**– Якія ў вас адносіны з суполкамі Анжалікі Борыс? Ці супрацоўнічаеце?**

– На жаль, раскол сярод беларускіх палякаў, які адбыўся ў 2005 годзе, захоўваецца да сёння. На маю думку, кіраўнікі абедзвюх плыняў павінны пайсці насустрач адзін аднаму і зліквідаваць той раскол у бліжэйшай будучыні. Я даўно пра гэта гавару, асабліва перад з'ездамі. Мы будзем нашмат мацнейшымі, калі аб'яднаемся, у нас жа адны і тыя ж мэты. Але пані Борыс не хоча пра гэта і чуць. Па якіх прычынах – мне невядома. Мы ж заўсёды адкрыты для дыялогу, для сумеснай працы.

**– Анжаліка Борыс даволі крытычна пра вас выказваецца.**

– Так, на нас навешалі шмат ярлыкоў. Гэта няправільна. Скажам, я ніколі не дазваляю сабе выказванняў, якія абражаюць кагосьці, а ад Борыс мы вельмі часта чуем такое. З другога боку, можа, і добра, што няма манаполіі пэўнай арганізацыі на культурна-асветную дзейнасць. Могуць быць і некалькі суполак, але яны павінны мірна суіснаваць.

**– Паводле слоў Борыс, у суполках, з якімі яна працуе, палякаў каля 12.000 чалавек. А ў вас?**

– Лічбы Борыс цяжка праверыць. У нас на сённяшні дзень стаяць на ўліку ў райвыканкамах 69 аддзяленняў. Усяго недзе 5,5 тысячы чалавек.

**– Ці дапускаеце вы двайное сяброўства?**

– З людзьмі цяжка разабрацца. Раскол, які адбыўся, не такі відавочны ўнізе. І калі едзеш па рэгіёнах, па вёсках, то людзі не разумеюць, чаму мы падзяліліся. Да гэтага часу! Ды што ў вёсках… Да нас у Мінску прыходзяць ахвочыя ўступіць у саюз і ўпершыню даведваюцца, што існуюць яшчэ альтэрнатыўныя суполкі палякаў.

**– Беларускія палякі – усё ж грамадзяне Беларусі. Ці падтрымліваюць вас беларускія ўлады?**

– Без дзяржаўнай падтрымкі мы не маглі б ладзіць маштабныя мерапрыемствы. Той жа «Аўгустоўскі канал»… У нас, скажам, няма аўтобусаў, каб людзей прывезці. Але дзяржава не плаціць нам заробкі. Проста няма артыкула ў бюджэце, які дазваляў бы фінансаваць напрасткі Саюз палякаў.

**– Хіба ваша пасада – гэта грамадская праца?**

– Так, на рэспубліканскім узроўні гэта грамадская праца. На жыццё я зарабляю выкладаннем матэматыкі ў Інстытуце парламентарызму і прадпрымальніцтва. Праўда, там, дзе ёсць польскія дамы, атрымліваецца з грошай ад здачы іх у арэнду плаціць невялікія заробкі. Скажам, я ўзначальваю яшчэ і Мінскую абласную арганізацыю палякаў, то маю невялікі заробак за кошт таго, што вяду гаспадарчую дзейнасць і ўтрымліваю Польскі дом у Мінску. Гэтыя дамы мы ўтрымліваем самі, ні польская, ні беларуская дзяржава не дапамагаюць. Здаём свабодныя ці лішнія плошчы ў арэнду, праводзім платныя курсы польскай мовы.

**– І колькі ў вас такіх польскіх дамоў?**

– Дзейных – 14. Яшчэ два недабудаваныя – у Навагрудку і Ашмянах. Пакуль нам удаецца іх утрымліваць, хоць гэта даволі цяжкая справа.

**– Назавіце прыклад самага плённага польска-беларускага супрацоўніцтва ў 2019 годзе.**

– На маю думку, гэта прадстаўнічы Форум польскіх інвестараў, які адбыўся ў Мінску 12 снежня. У ім узялі ўдзел больш за 250 чалавек. На форуме была агучана лічба ўзаемнага тавараабароту, яна набліжаецца да 3 мільярдаў долараў. Гэтай лічбы мы ўжо калісьці дасягалі – да таго, як паўсталі праблемы ў міждзяржаўных адносінах. Цяпер мы зноў набліжаемся да таго ўзроўню. Так што рух наперад у польска-беларускіх адносінах навідавоку.

**Антон ЗАГОРСКІ.**

ПАЗІЦЫЯ

## «Мы павінны трымацца разам»

*У першыя гады незалежнасці Беларусі Саюз палякаў быў адной з самых масавых грамадскіх арганізацый у нашай краіне – налічваў больш за 30.000 сябраў. Польская нацыянальная меншасць тады атрымала магчымасць будаваць свае школы, з беларускага бюджэту фінансавалася газета «Głos znad Niemna», што выходзіла ў Гродне. З таго часу шмат што змянілася. Сённяшняя госця «Народнай Волі» – **Анжаліка БОРЫС,** адна з актыўнейшых асоб сярод палякаў Беларусі .*

**– Пані Анжаліка, пачну нашу гутарку з камплімента. Вы так выкшталцона размаўляеце па-беларуску…**

– Я ж вучылася ў беларускай школе ў вёсцы Падліпкі, гэта 25 кіламетраў ад Гродна. А польскай мове мяне навучыла мая бабуля.

**– Колькі чалавек на сёння ўваходзіць у суполкі палякаў, якія падзяляюць вашы погляды?**

– На сённяшні дзень у іх налічваецца па ўсёй Беларусі каля 12.000 чалавек. У Мінскім рэгіёне ў нас больш за 3000 чалавек, даволі шматлікія згуртаванні ў Брэсце, Баранавічах, Барысаве, Маладзечне, Мазыры, Браславе, Магілёве, Віцебску. Толькі на Гродзеншчыне дзейнічае больш за 60 нашых суполак – у Лідзе, Ваўкавыску, Берастывіцы, Шчучыне, Навагрудку, Мастах...

**– Чым гэтыя суполкі займаюцца? Улады ж вам не вельмі спрыяюць…**

– Галоўнае, каб не чыніліся перашкоды. Летась па ўсёй Беларусі мы правялі 138 розных мерапрыемстваў, сёлета іх будзе больш за 170. Наша дзейнасць – гэта нядзельныя школы, догляд месцаў памяці (у тым ліку могілак), мастацкія калектывы. У нашай гродзенскай школе – 1010 вучняў. У мінулым годзе іх было каля 600, амаль удвая прырост. У Баранавічах у такой школе навучаюцца 800 дзетак, у дзвюх брэсцкіх – 900, у лідскай – 300, у ваўкавыскай – 200, у мінскай – 300, у барысаўскай – 200. Мы арганізуем іх выезд у Польшчу, ладзім розныя святы. Скажам, неўзабаве пачнецца доўгатрывалая акцыя «Святы Мікалай» – калядныя мерапрыемствы, падарункі, фестывалі, конкурсы. Толькі летась мы перадалі дзеткам каля 4000 калядных падарункаў.

**– Я ведаю, што ў Гродне і Ваўкавыску існуюць дзяржаўныя школы з польскай мовай навучання. Ці задаволены вы іх дзейнасцю?**

– Названыя вамі школы былі пабудаваны за грошы польскіх падаткаплацельшчыкаў у 1996-м і 1999 гадах. На жаль, сёння польская адукацыя ў Беларусі абмежавана. Летась у 13 школах Гродна дзеткі вывучалі польскую мову на факультатывах. Сёлета – толькі ў сямі школах. Улады чамусьці не хочуць, каб вялікая колькасць школьнікаў ведала польскую мову. Вось вам яскравы прыклад: у Воранаўскім раёне, дзе сярод жыхароў 83 працэнты палякаў (гэта афіцыйныя дадзеныя), польская мова прысутнічае толькі ў дзвюх школах. У самім Воранаве, дзе школьнікаў больш за 1000, польская мова не вывучаецца зусім. Летась 200 вучняў вывучалі польскую мову ў гродзенскай гімназіі №1, сёлета адміністрацыя нам паведаміла, што ўрокаў польскай у іх больш не будзе.

**– Вы, мабыць, ведаеце, што не ў лепшай сітуацыі ў Гродне знаходзіцца і беларуская школа. Існуе толькі некалькі класаў.**

– Гэта ненармальна. У Беларусі паўсюль павінны быць беларускамоўныя школы! Нацыянальная школа – гэта моцны чыннік самаідэнтыфікацыі. Калі яе няма, народ папросту не існуе, яго можна паварочваць куды хочаш. Сёння ў Беларусі ідзе вельмі моцная русіфікацыя, найперш праз школы, і беларусы мусяць супрацьстаяць ёй. І мы, палякі, таксама, але нам, як нацыянальнай меншасці, гэта рабіць у 100 разоў цяжэй.

**– Паводле перапісу 2009 года, палякаў у Беларусі жыло каля 300.000 – на 100.000 менш, чым было зафіксавана ў 1999 годзе. Якіх вынікаў вы чакаеце ад сёлетняга перапісу?**

– Да мяне ніхто з перапісчыкаў не прыходзіў і да многіх маіх сяброў таксама. Дык ці будуць вынікі перапісу праўдзівыя? Вядома ж, не. Нас гэта вельмі непакоіць.

**– Гадоў дзесяць таму вы ініцыявалі выдачу карт паляка, іх ужо атрымалі больш за 100.000 грамадзян Беларусі. Да гэтых карт у беларускім грамадстве неадназначнае стаўленне.**

– Карта паляка не шкодзіць Беларусі. Тыя, хто на яе прэтэндуе, мусяць у пэўнай ступені ведаць польскую мову, гісторыю, свае карані. Уладальнікі карты могуць без візы наведваць Польшчу. Што ж тут дрэннага?

**– Шкада, што наша ўлада ў адказ на карту паляка не ўвяла карту беларуса – для жыхароў Беласточчыны.**

– Дык хай бы ўвяла, мы пра гэта гаворым з 2008 года! І не толькі для Беласточчыны. Хай бы беларусы з усяго свету прыязджалі ў Беларусь без віз. Як прыязджаюць палякі ў Польшчу.

**– Якія ўсё ж стасункі з афіцыйнымі ўладамі? З кім вы сябруеце?**

– Вядома ж, пасля вядомага расколу стасункі не зусім нармальныя, але мы не выступаем супраць улад. Мы проста пільнуемся сваёй мовы, гісторыі, сваіх каранёў. Скажам, за арганізацыю ў сакавіку гэтага года гродзенскіх «Казюкоў» (ярмаркі) я была асуджана. Маўляў, несанкцыянаванае мерапрыемства. Калі нас падзялілі, шмат хто выказваў нам сваю салідарнасць, мы ўдзячны ўсім дэмакратычным сілам у Беларусі.

**– Традыцыйным апірышчам польскасці ў Беларусі быў касцёл. Як вы ставіцеся да таго, што сёння ў многіх касцёлах ідуць багаслужбы па-беларуску?**

– Я ўспрымаю гэта нармальна. Але ўсё ж там, дзе жыве шмат палякаў, набажэнствы могуць быць і на польскай мове. Так, польская мова захавалася ў Беларусі дзякуючы касцёлу. Але ж і касцёл таксама баранілі палякі. Скажам, я паходжу з Адэльскай парафіі, з-пад Гродна. Я там хадзіла да першай камуніі ў касцёл, з дзяцінства малілася па-польску. Малітва – духоўная справа, і нельга прымушаць людзей маліцца на іншай мове.

**– За што сёння і палякі, і беларусы павінны змагацца?**

–У сённяшніх умовах і палякі, і беларусы мусяць змагацца перш-наперш за сваю ідэнтычнасць. У нас адна пагроза – русіфікацыя, мы дасягальныя для штодзённай расійскай тэлепрапаганды. І мы павінны трымацца разам. З часоў Касцюшкі ў нас агульны лозунг – «За нашу і вашу свабоду!». Ён застаецца надзвычай актуальным і сёння.

**Міхась СКОБЛА.**

АСОБА

## Ён працуе для беларусаў, для гэтага краю

*На пачатку 2000-х гадоў у касцёле Св.Міхала Арханёла ў Івянце з'явіўся пробашч – ксёндз з Польшчы **Лех Баханека.** Сёння дзякуючы ягоным намаганням Белы касцёл Івянца (так у пасёлку называюць храм) стаў не толькі рэлігійным і духоўным, але і культурным, асветніцкім і нават спартыўным цэнтрам.*

У 2016 годзе ксёндз Лех Баханека аказаўся ў спісе пробашчаў з Польшчы, якім беларускія ўлады не працягнулі тэрмін службы у нашай краіне. Такія сітуацыі і раней узнікалі ў Беларусі і, безумоўна, пакідалі непрыемны асадак, але не мелі катастрафічных наступстваў: на змену польскім святарам прыходзілі беларускія – выпускнікі духоўных семінарый Гродна і Пінска.

Аднак у 2016-м здарыўся сапраўдны скандал!

У абарону пробашча Леха Баханекі выступілі літаральна ўсе парафіяне івянецкага касцёла Св. Міхала Арханёла, узнялася хваля ў сацыяльных сетках, жорсткую пазіцыю заняў Касцёл у Беларусі. І ўлады адступілі: усіх трох польскіх ксяндзоў, якім пагражала «высылка», пакінулі ў Беларусі. Беларускі Касцёл тады падзякаваў «*органам дзяржаўнай улады за перагляд гэтай справы*». А мітрапаліт **Тадэвуш Кандрусевіч**, кажучы пра службу польскіх ксяндзоў у нашай краіне, адзначыў: «*Гэтыя святары доўга і вельмі плённа служылі вернікам Беларусі: будавалі і рамантавалі касцёлы, катэхізавалі, займаліся хрысціянскім выхаваннем дзяцей і моладзі, дабрачыннасцю і г.д. Дастаткова толькі паглядзець на касцёл Св. Міхала Арханёла ў Івянцы, які дзякуючы намаганням айца Леха Баханекі са знішчанага паўстаў нанова як шэдэўр сакральнай архітэктуры!*»




Сёння Белы касцёл Івянца па-ранейшаму адно з самых прыгожых месцаў пасёлка, якое прыцягвае да сябе не толькі веруючых католікаў. Турыстычная кампанія «Краіна замкаў», напрыклад, распрацавала экскурсійны маршрут, які пралягае праз Івянец, з абавязковым наведваннем касцёла Св. Міхала Арханёла .

– *Вельмі прыемна, што ў плане турызму ёсць што паказаць у Івянцы*, – кажа дырэктар «Краіны Замкаў» **Алесь Варыкіш**. – *Там добры музей традыцыйнай культуры, але, каб зацікавіць турыстаў, гэтага малавата. А дзякуючы намаганням ксяндза Леха ў пасёлку з'явіўся цэлы касцельны комплекс. Я лічу, што ўнёсак у гісторыю Беларусі, гісторыю Івянца гэтага ксяндза-паляка проста ўнікальны.*

Па-першае, заўважае кіраўнік «Краіны замкаў», у Івянцы быў поўнасцю адноўлены касцёл Св. Міхала Арханёла, які ў савецкія часы ператварыўся ў засолачны цэх загатканторы. Сёння гэта адзін з прыгажэйшых помнікаў віленскага барока ў Беларусі. Акрамя таго, дзякуючы пробашчу быў адноўлены кляштар і яшчэ адзін касцёл Івянца – касцёла Св. Аляксея, а таксама касцёл Св. Юрыя ў вёсцы Пяршаі, які доўгі час з'яўляўся праблемным даўгабудам.

«*Гэта што тычыцца аднаўлення храмаў – нашай культурнай спадчыны*, – адзначае Алесь Варыкіш. – *Але ж гэтым дзейнасць ксяндза Леха не абмяжоўваецца. Ён рэалізуе вельмі крутыя маладзёжныя праекты: адкрыў пры касцёле гурток скаўтаў, куды запісана больш за 100 чалавек, арганізаваў музычны фестываль – такіх ў Беларусі адзінкі. А сацыяльныя праекты, якія накіраваны на дзяцей і на пажылых людзей сталага веку! Прычым не магу не адзначыць, што не толькі служба ў касцёле вядзецца па-беларуску, рабочая мова ўсіх мерапрыемстваў і праектаў, якія тут адбываюцца, – беларуская.*

Пералічваць справы, якія рэалізоўвае польскі святар для беларусаў, можна доўга, але галоўнае: усё, што робіць ксёндз Лех, ён робіць з душой. «*Ксёндз Лех – вельмі пазітыўны і канструктыўны чалавек*, – зазначае Алесь. – *Нягледзячы на тое, што ён паляк па нацыянальнасці, ён працуе для беларусаў, для гэтага краю…*»

А вось што кажуць пра свайго пробашча вернікі:

– *У мяне адчуванне, што колькі ёсць касцёл у Івянцы, столькі тут і ксёндз Лех знаходзіцца,* – кажа парафіянка Вольга. – *Ён аднавіў касцёл, пабудаваў побач з ім кляштар, дзе жывуць манахі і яго памагатыя. Але не толькі рэлігійнымі справамі заняты наш пробашч, адчуванне, што вакол яго віруе жыццё пасёлка.*

*Некалькі гадоў пры касцёле працуе кафэ «У францішканаў». Утульнае месца, дзе гатуюць вельмі смачную каву і дзе няма алкаголю. Тут можна святкаваць дні народзінаў, збірацца добрай кампаніяй…*

*А як ксяндза Леха любяць дзеці! Ён жа з дзецьмі і летнікі ладзіць, і велапрабегі, спартыўную пляцоўку побач з касцёлам пабудаваў, там дзеці і ў футбол могуць паганяць, і ў баскетбол пагуляць, а не цягацца без справы па пасёлку. Каля касцёла ёсць невялікі заапарк, малыя з бацькамі прыходзяць пакарміць трусоў, авечак, коніка…*

*Кожную нядзелю ў 10 раніцы ксёндз Лех вядзе службу для дзетак па-беларуску. Вучыць усіх вернікаў толькі добраму: любіць бога, паважаць бацькоў і навакольных, дбаць пра сваю краіну, паводзіць сябе хораша!*

Сам ксёндз Лех Баханека не любіць расказваць пра свае справы. Што і нядзіўна: яны і так навідавоку.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

